 

# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 38 (1740) ГОД XXXIV БЕЛАСТОК, 17 ВЕРАСНЯ 1989 г. Цана 80 зл.

ПОМНІКІ КУЛЬТУРЫ

## ЦАРКВА У ЯЛОЎЦЫ

Ялоўка — тапаграф[illegible] назва ад ракі Ялоўка — левага прытоку Свіслачы, а тая ад беларускага „яловы", па-польску „свярковы".

Даўней горад, сёння вёска ў Міхалоўскай гміне, ляжыць паблізу граніцы з БССР. Забудова кампактная, дамы размешчаны паўз некалькіх вуліц. Насельніцтва займаецца сельскай гаспадаркай, да вайны — рамяством і гандлем. У вёсцы ёсць трохкласная школа, пошта, медычны пункт, злеўня малака, крама. Што датычыць веравызнання, дык насельніцтва мешанае — каталіцкае і праваслаўнае; ёсць на месцы царква і касцёл. Пераважаючая частка насельніцта ў асноўным карыстаецца беларускай мовай.

(Працяг на стар. 7)



АДАМ МАЛЬДЗІС

## З Караткевічам у Польшчы

(Пачатак у папярэднім нумары)

А ў другі раз было так. У амаль пустой зале бібліятэкі Чартарыскіх я пачуў, што нейкая жанчына гаворыць з абслугай па-польску, але з яўным рускім акцэнтам. Аказалася яна савецкай фалькларысткай. Як больш абазнанага з Кракавам спытала мяне, дзе тут лепей абедаць. І я адказаў, што мы, ёсць тут такі беларускі пісьменнік Уладзімір Караткевіч, кожны дзень абедаем для разнастайнасці ў іншым месцы.

— Які Караткевіч? — спытала яна. — Той, што вучыўся ў Кіеве і напісаў „Чазенію"?

— Той самы.

— Ой, тады пазнаёмце нас асабіста! Зрабіце ласку!

Па дарозе да Сукеніц мы распрацавалі план розыгрышу. Падыйшлі — бачым: стаіць Валодзя ля помніка Міцкевічу, снег з каўняра абтрасае, на гадзіннік паглядае.

І вось падыходзіць да яго жанчына, апранутая ў дарагое футра, і па-руску строга пытае:

— Таварыш Караткевіч?

— Так.

— Уладзімір Сямёнавіч?

— Та-ак.

— Вось што, Уладзімір Сямёнавіч, вам прапануецца на працягу дваццаці чатырох гадзін пакінуць межы гэтай краіны. Аб прычынах лепей не пытайце, таму што вы іх добра ведаеце самі.

— Ну... Ну што такое я вам зрабіў? Пару разоў у „Кухцік" зайшоў, дык хіба за гэта высылаюць...

Жанчына рассмяялася. І тут Валодзя зразумеў, што яго зноў разыгралі.

— Завошта?! — спытаў ён у мяне меладраматычна, калі ўсё высветлілася.

— А каб не гаварыў, што цябе ўжо ніхто не „купіць", не заснаваўся. Ды і за ўчарашняга „сапраўднага паляка", Валодзечка, за тое, што ты мяне таксама падвёў пад манастырскі мур...

А напярэдадні здарылася вось што. Польскія сябры арганізавалі ў наш гонар „прыём" у кафэ „Літаратурнае" на Плянтах. Прыйшоў з універсітэта прафесар Лужны, нейкі барадаты паэт. Пагаманілі крыху, выпілі па маленькаму кілішачку такайскага віна.

— Паседзімо дзе яшчэ! — рашуча запрапанаваў мне Валодзя, калі пачалі разыходзіцца.

— Дужа няма часу.

— Знойдзеш той час! — калі Караткевіч упарціўся, спрачацца з ім не мела сэнсу. — Пойдзем у „Кухцік"!

— Тады — лепш у „Міхаліковую яму". Афармлена яшчэ мастакамі „Маладой Польшчы". Выспяньскі там бываў. Цыганы спяваюць...

У „Міхаліковай яме" было чамусьці пуставата. За суседнім столікам сядзеў сівы мужчына з „арліным носам". Пацягваючы моцную каву і пітны мёд, Валодзя заўважыў:

— Бідаць, так выглядаў Юльян Тувім, калі быў жывы.

Наш сусед пачуў, што пра яго гаворым. І калі мы выйшлі, спачатку стаяў у гардэробнай чарзе перад намі, а потым — за намі. Як вынікала з наступнай размовы, ён зразумеў, што паміж сабой мы гаворым не па-руску, а вось ці на ўкраінскай, ці на беларускай мове — да яго не дайшло... На вуліцы ён дагнаў нас і адразу пачаў браць быка за рогі:

— Але ж і памыі вы, панове, пілі ў гэтай „яме"!

— Чаму — „люру"? — здзівіўся Валодзя. — Нішто сабе пітны мёд. Стары. Трайны.

— Калі хто прыязджае ў Польшчу з Украіны або з Беларусі, то павінен піць не мёд... Вы... ведаеце генерала Залатарова?

— Здаецца, быў такі. А што?

— Я — той слаўны лейтэнант Сокал, які пад яго началам змагаўся на ўкраінскай і беларускай зямлі за вашу і нашу вольнасць! І калі хто прыязджае з Украіны ці з Беларусі, то запрашаю на сапраўдны польскі пачастунак! Не на такія памыі.

Валодзя штурхнуў мяне ў бок: нарэшце натрапілі на „сапраўднага паляка"! Але мне нешта ныла ў сэрцы, і я пачаў рашуча аднеквацца:

— Няма часу. Спяшаемся!

— Я ведаю, што калі хто прыязджае з Украіны або з Беларусі, то заўсёды не мае ні часу, ні грошай. Я запрашаю, я стаўлю! Ад чыстага польскага сэрца.

(Працяг на стар. 6)

 




## АЛЯКСАНДР НАДСОН

Каля двух гадоў таму назад у „Голасе Радзімы“ паявіўся знішчальны фельетон, прысвечаны вядомаму беларускаму вядучаму дзеячу ў Англіі Аляксандру Надсону. Аўтар фельетона не пакінуў на Надсоне сухой ніткі, асудзіў яго мінулае, яго сучаснае, яго рэлігійныя пачуцці, палітычныя погляды, этычныя, або лепш сказаць антыэтычныя прынцыпы. Я не намерваюся весці палеміку з аўтарам „Голасу Радзімы“. Кожны чалавек павінен мець права да свабоднага выяўлення сваіх думак і ацэнак. І няхай ён разлічваецца з уласным сумленнем, калі сказаў няпраўду. Не ведаю, ці аўтар фельетона сутыкнуўся непасрэдна з Надсонам. Думаю, што не. А калі так, дык павінен больш удумліва ўзважваць свае словы. Я належу да тых, хто ведае Надсона не з чужых ацэнак і інфармацый, а з непасрэдных сустрэч. Першы раз я сутыкнуўся з ім у 1979 годзе. Пасля яшчэ восем разоў давялося мне прабываць з ім ад дзесяці дзён да трох тыдняў за кожным разам. У суме сужыў я з Надсонам не менш чым чатыры месяцы і гэта дазваляе мне фармуляваць ацэнку гэтага чалавека.

Аляксандр Надсон — чалавек рэдкай сярод беларусаў прафесіі. З'яўляецца ён беларускім ксяндзом-уніятам. Кіруе ён беларускім цэнтрам у Лондане. На цэнтр гэты складаецца Бібліятэка і Музей імя Скарыны. Тры трохпавярховыя дамы, царква Пятра і Паўла, невялічкі садзік і вялікі агарод. Калі гадоў шэсць таму назад памёр епіскап Часлаў Сіповіч — галоўны арганізатар беларускага цэнтра ў Лондане, каса гэтага цэнтра налічвала каля шасці тысяч фунтаў. Сёння дзякуючы нястомнай дзейнасці Аляксандра Надсона, налічвае больш чым сто тысяч фунтаў. Ужо адных працэнтаў ад гэтай сумы хапіла б, каб фінансаваць беларускі цэнтр. Адкуль узяліся гэтыя грошы? Аляксандр Надсон з выключнай паслядоўнасцю піша беларусам, рассеяным па ўсім свеце, просіць ад іх дапамогі. Нярэдка сам непасрэдна ездзіць па свеце: у ЗША, Аўстралію, Канаду, — збіраць грошы на беларускі цэнтр.

Любімым дзіцём Надсона з'яўляецца Бібліятэка імя Ф. Скарыны. Дзякуючы Надсону ўдалося сабраць тыя рэдкія беларускія кнігі, якія знаходзіліся ў заходнееўрапейскіх краінах. Апрача гэтага, вядзе ён кнігаабмен з Бібліятэкай імя Леніна ў Мінску. Многія кнігі былі атрыманы з Польшчы. Некаторыя, рэдкія, між іншым, фрагменты кнігі Францішка Скарыны, былі куплены на аўкцыёнах. Дзякуючы гэтаму, была скамплектавана цікавая беларуская і беларусазнаўчая бібліятэка, прысвечаная палітычнай гісторыі, эканоміі, геаграфіі і літаратуры Беларусі. Асобная галіна — гэта прэса. Аляксандр Надсон клапатліва сабраў усё тое, што выдавалася беларусамі на Захадзе пасля вайны. Знаходзяцца там такія рэдкія часопісы, як „Шыпшына“, „Сакавік“, „Бацькаўшчына“, „Беларусь“. У бібліятэцы збіраецца таксама ўся савецкая перыёдыка. У скарынінцы таксама сабрана ўсё тое, што выйшла па-беларуску ў Польшчы. Адносіцца гэта да „Нівы“, „Беларускіх календароў“, літаратурных альманахаў, паэтычных, празаічных і драматычных зборнікаў. Памяшканне Бібліятэкі Скарыны выключнае. Невялікае, але добра загаспадаранае і прытульнае. Вельмі карыснай прыладай у ім з'яўляецца ксеракс, які пазваляе на працягу 20—30 мінут перафатаграфаваць вялікую кнігу.

Крыху скрамней, але таксама цікава выглядае Музей. Мае ён этнаграфічна-гістарычны характар. Знаходзяцца ў ім цікавыя экспанаты, між іншым, лагерная кашуля Ларысы Геніюш. Многія з экспанатаў прывёз я з роднай беларускай хаты. Калаўрот, ручнікі, дыван, бязмен, драўляныя лыжкі.

Кідаецца ў вочы выключны віталізм і універсалізм Аляксандра Надсона. З'яўляецца ён дырэктарам бібліятэкі, загадчыкам Музея, кіраўніком усяго цэнтра, актыўным дзеячом Брытанска-беларускага таварыства і згуртавання беларусаў Вялікабрытаніі. Пры ўсіх гэтых свецкіх функцыях ён рэлігійны беларускі дзеяч. Па некалькі разоў у дзень праводзіць багаслужбы ў царкве, пачынаючы ад вельмі ранніх, а канчаючы познавячэрнімі. Апрача гэтага, працуе ён навукова, займаючыся перш за ўсё асветніцкім рухам у Беларусі сярэдніх вякоў.

Здзіўляе гэты чалавек глыбінёй ведаў не толькі гістарычных, рэлігійных, але і літаратурных. Усё гэта з'яўляецца вынікам выключнай працавітасці. Жывучы з ім пад адным дахам, бачыў я і чуў, як сядзіць ён над кнігамі да позніх начных гадзін, а каля пятай ужо бяжыць у сутане на маленні.

І гэта яшчэ не ўсё. Аляксандр Надсон дасканалы кухар, асабліва ў галіне безмясных страў. Сам ён не есць мяса і таму выспецыялізаваўся ў раслінных стравах, якія варыць з захапляючым размахам. Практычна кожны дзень корміць ён пяцьдзесяць асоб. Прадукты, патрэбныя для кухні, носіць штодзённа ўласнаручна з магазінаў, якія знаходзяцца каля кіламетра ад Беларускага цэнтра.

Нярэдка бярэ ў рукі мятлу і замятае пляцык, сцежкі і вуліцу каля беларускіх дамоў.

Аляксандр Надсон з'яўляецца ініцыятарам і душой семінараў, канферэнцый і сходаў, якія праводзяцца ў Беларускім цэнтры пры ўдзеле ад 50 да 100 асоб. Усіх гэтых людзей Надсон корміць, дае начлег, арганізоўвае прыезды і выезды. Дзякуючы такой паставе Надсона Беларускі цэнтр стаўся магнітам, да якога цягнуць беларусы з усяго свету, у тым ліку і беларусы з Польшчы.

Усё, што робіць Аляксандр Надсон, мае адзін падтэкст і адну мэту. Гэтым падтэкстам і мэтай з'яўляецца думка аб Беларусі. Калі б не ён, праўдападобна, Беларускі цэнтр ужо даўно занапаў бы або і ўвогуле перастаў існаваць.

Зразумела, што ва ўсіх беларусаў, якім дарагая ідэя беларускай культуры, не можа не выклікаць глыбокай падтрымкі пастава Аляксандра Надсона. Таму спробы напасці на гэтага чалавека не могуць не выклікаць асуджэння.

**Алесь Барскі**

## АДЗІН НАРОД, АДНА ДЗЯРЖАВА

Сёння, 17 верасня, мінае роўна паўстагоддзя з таго часу, калі Чырвоная Армія перайшла ўсходнюю граніцу міжваеннай польскай дзяржавы і неўзабаве выйшла на лінію, устаноўленую міждзяржаўным нямецка-савецкім дагаворам, т.зв. пактам Рыбентроп-Молатаў. Вялікія абшары тагачаснай польскай дзяржавы былі далучаны да СССР, у тым ліку ўсе заходнебеларускія землі.

З нагоды 50-годдзя заключэння нямецка-савецкага дагавору прэса, радыё і тэлевізія, а таксама парламент ПНР асудзілі яго як немаральны і злачынны. З другога боку беларускія сродкі масавай інфармацыі падкрэсліваюць іншы аспект дагавору, а менавіта, што ў яго выніку адбылося ўз'яднанне ўсіх беларускіх зямель у адной нацыянальнай рэспубліцы. А гэта значыць, што пакт Рыбентроп-Молатаў выправіў гістарычную несправядлівасць, якую стварыў Рыжскі трактат. Прыгадаем, што гэты ганебны трактат, падпісаны ў сакавіку 1921 г. прадстаўнікамі Польшчы і Савецкай Расіі, разарваў жывое цела Беларусі на дзве часткі. Такі ненармальны стан працягваўся 19 гадоў, да верасня 1939 г.

У гэтай сувязі сумленная ацэнка падзей 1939 г. немагчымая без уліку канкрэтных гістарычных абумоўленняў. Падчас першай сусветнай вайны, калі наш народ будзіўся да дзяржаўнага жыцця, беларускія палітыкі імкнуліся разыгрываць розныя карты: нямецкую, расійскую і польскую. Аднак у кожным выпадку (БНР, федэрацыя з Расіяй ці Польшчай) яны імкнуліся захаваць цэласнасць нацыі як сваё святое, прыроднае права, якое, дарэчы, тэарэтычна не адмаўлялася ні Леніным, ні Пілсудскім. Аднак у Рызе перамаглі звычайныя вялікадзяржаўныя інтарэсы абодвух суседзяў, якія выявіліся ў злачыннай канцэпцыі падзелу беларускай зямлі.

Варта заўважыць, што тых палітыкаў, якія імкнуцца ці адабраюць падзел сваёй бацькаўшчыны, называюць здраднікамі. На нашае шчасце і гонар, пад Рыжскім трактатам не было подпісу прадстаўніка Беларусі. Як жа ў гэтых адносінах было з беларускімі дзеячамі міжваеннай пары ў абодвух частках падзеленай бацькаўшчыны?

Вось жа, як піша Віктар Мароз у артыкуле „Пакты, трактаты і беларусы“, апублікаваным нядаўна ў нефармальным часопісе „Кантакт“ (1989, № 2), „у міжваенным перыядзе не было ніводнай беларускай партыі, якая ў сваёй праграме не дамагалася б злучэння ўсёй беларускай зямлі. У гэтай справе партыі розніліся паміж сабою толькі метадамі, якімі хацелі дасягнуць гэтую мэту“. Такім было становішча не толькі камуністаў і пракамуністычных арганізацый, але і „Цэнтрасаюза“ Астроўскага-Луцкевіча і Беларускай хрысціянскай дэмакратыі — палітычных груповак, якія востра крытыкаваліся ў БССР як нацыяналістычныя, сацыял-фашысцкія і г.д. Аб гэтым, між іншым, сведчыць артыкул „Славянафільства і беларускі народ“, апублікаваны 19.I.1940 г. у віленскай хадэцкай „Крыніцы“, у якім адабралася вызваленчая місія Чырвонай Арміі і працэс ўз'яднання ўсіх беларускіх зямель. Невыпадкова гэтую падзею акцэптавалі нават тыя беларускія дзеячы, якія не пагаджаліся з савецкай сістэмай. Аб гэтым вырашаў лепшы ці горшы, але агульны лёс нацыі, якая пачынала новы этап свайго развіцця ў адной дзяржаве.

Прыхільна ўспрыняла савецкую ўладу таксама пераважная частка сялянства — асноўная маса насельніцтва Заходняй Беларусі. Аб гэтым сведчаць не толькі савецкія публікацыі, якія могуць быць западозраны ў тэндэнцыйнасці, але і выказванні нямецкіх і амерыканскіх даследчыкаў, а таксама польскіх аўтараў у шматлікіх пазацэнзурных выданнях, якія цяжка было б лічыць пераказчыкамі прасавецкіх сімпатый. У гэтых адносінах варта працытаваць успамін нашага беластоцкага пісьменніка Васіля Петручука: „Хачу выразна падкрэсліць, што я быў вызвалены (без двукосся) Чырвонай Арміяй. Я ў 1939 годзе ўпершыню пайшоў у школу і то ў савецкую школу, якой мы, беларусы, вельмі чакалі (...). Цяпер гавораць розна і было па-рознаму, але мы чакалі прыходу савецкай улады, як дзіця чакае прыходу маці з поля“. („Ніва“, 5.II.1989 г.).

Аднак сёння, праз паўстагоддзя, з'явіліся аўтары, якія спрабуюць даказваць, што такія ацэнкі не што іншае, як „сталінская прапаганда“ (гл. Jacek Grün, „Docent sfrustrowany”, „Kurier Podlaski”, 8—10.IX.1989 г.). Зноў іншыя, як напр. С. Таляронак у мінскім „ЛіМе“ ад 25 жніўня, памяншаюць значэнне дзяржаўнага ўз'яднання беларускай нацыі і падкрэсліваюць адмоўныя, нярэдка трагічныя, падзеі, якія адбыліся пасля ўз'яднання, такія, як расправа з дзеячамі заходнебеларускага вызваленчага руху, масавыя рэпрэсіі і г.д.

Не будзем аспрэчваць выказванні Таляронка, аднак заўважым, што як у кожнай справе, так і ў гэтым выпадку неабходны дакладны аналіз і выважаны рахунак страт і прыбыткаў. У прыватнасці, можна задумацца, **ці ў выніку ўсіх міжваенных і пасляваенных выпрабаванняў існавала б сёння беларуская нацыя, калі б не адбылося яе ўз'яднанне, калі б Заходняя Беларусь працягвала заставацца ў межах Польшчы?**

У адрозненні ад беларускага, польскі пункт гледжання на падзеі 1939 г. абумоўлены перш за ўсё стратай каланіяльных абшараў на ўсходзе. У гэтых адносінах Рыжскі трактат быў для Беларусі не менш амаральным і злачынным, чым для Польшчы быў пакт Рыбентроп-Молатаў.

**Юры Туронак**

# ПРЫСУТНАСЦЬ

студэнцкая старонка

## ПАДЗЯКА

Галоўная рада БАСа — арганізатары студэнцкага рэйду „Бацькаўшчына 6“ сардэчна дзякуюць людзям, без зычлівасці якіх і прыхільнага стаўлення да нашай ініцыятывы правядзенне летняга вандравання было б немагчымым. Асаблівая падзяка належыцца:

— бацькам Юркі Каліны за гасціну ў Кашалях,

— начальніку гміны Чыжы Рыгору Мацкевічу за ўсебаковую дапамогу,

— дырэктару Гміннага асяродка культуры ў Чыжах, Юрку Якімюку і працаўніцы тае ж установы Галіне Мартынюк, членам калектыву „Чыжоўцы“ за цудоўную атмасферу ў Чыжах,

— бацькам Міколы Ваўранюка за гасціну ў Вялікіх Тыневічах,

— моладзі з Тыневіч за арганізаванне вогнішча,

— бацькам Міраслава Пякарскага за ветлівае прыняццё ў Ляўкове,

— дырэктару Пачатковай школы ў Нараўцы за магчымасць начлегу ў памяшканнях школы,

— дакладчыкам і госцям рэйду: Міколу Ляшчынскаму, Антону Мірановічу, Віктару Шведу, Аляксандру Баршчэўскаму, Лёніку Тарасэвічу, тэатральнаму калектыву „Парнас“,

— нашым сябрам, а заадно і важакам — Яўгену Вапу, Алегу Латышонку — за тое, што на працягу цэлай вандроўкі дзяліліся сваімі ведамі і дасведчаннем, што найбольш ярка выявілася ў дакладах у Чыжах і Нараўцы.

Шчырае беларускае дзякуй!

**Г.Р. БАС —**
**Жыве Беларусь!**




**Ой, як не хацелася выходзіць з Орлі!**

**Тыневічы... дзе Парнас бавіў нас да слёз...**



**Гродна. Чакаем князя Купаліша.**



**Гродна. На гэтай лодцы прыплыў князь Купаліш.**

## КУПАЛЛЕ НА БЕЛАРУСІ

У днях 30.VI—3.VII група БАСаўцаў была на Беларусі, куды запрасілі нас сябры з гродзенскай „Паходні“. Першага дня вечарам, недзе ад гадзіны 21.00, мы ўдзельнічалі ў святкаванні Купалля. Яно праводзілася ў вельмі прыгожым месцы ў лесе, над Нёманам. Арганізатарамі мерапрыемства з'яўляліся „паходненцы“, таму і ўдзельнікі — гэта ў большасці прыхільнікі Адраджэння. Людзі прыходзілі цэлымі сем'ямі, хаця моладзі не было зашмат. Ад пачатку над парадкам назіралі міліцыянеры, але, не заўважыўшы нічога дрэннага ў паводзінах сабраных, каля поўначы адправіліся з-над Нёмана.

Успамінаючы гэтае свята, трэба падкрэсліць вельмі цікавы яго сцэнарый. Зразумела — быў час, каб сплесці вяночкі, а затым пусціць іх на ваду. Выбіралі Купалінкі, адведаў нас князь Купаліш, а з водарасцяў выклікалі Зоську-Саламяную Страху — сапраўдную ведзьму. У лесе знайшліся кветкі папараці, якія наогул беспаспяхова шукаем у такую ноч. Беларускія песні пры вогнішчы працягваліся да рання.

Другі дзень нашай пабыўкі ў Гародні прайшоў на агляданні горада. Мы ўдзельнічалі таксама ў багаслужбе, якую адпраўляў мітрапаліт Беларусі Філарэт, затым правялі вельмі цікавы вечар. Былі ў гасцях у Віктара Шалкевіча, „паходненца“, які таксама вёў Купалле. Мелі магчымасць цікава пагутарыць і паслухаць яго песні. Пасля кароткага сну, на наступны дзень раніцай мы паехалі ў Вільню. Цэлы дзень хадзілі па старых вуліцах, наведвалі цікавейшыя месцы, бачылі плошчу Лукішкі, дзе быў павешаны К. Каліноўскі, і з захапленнем прыслухоўваліся мове віленскай вуліцы. Як жа інакш яна гучыць у параўнанні з вуліцамі Гародні, дзе роднай мовы амаль зусім не пачуеш. Здаралася, што калі мы гаварылі ў крамах пабеларуску, нам адказвалі папольску. Гэта, здаецца, найбольш непрыемны ўспамін з Беларусі.

На Беласточчыну мы вярталіся з заплечнікамі, поўнымі беларускіх кніжак, і галовамі, поўнымі ўражанняў. Развітваючыся, гаварылі „да пабачэння“ — сапраўды, вельмі добра, што наладзіліся кантакты і супрацоўніцтва. Толькі такім чынам можна нешта зрабіць дзеля нашай супольнай беларускай справы. Думаю, што часцей будзем сустракацца і вучыцца адзін ад другога.

Карыстаючыся нагодай, хачу таксама падзякаваць нашым сябрам за вельмі цёплы і сардэчны прыём.

Дзякуем! Да пабачэння!

**Барбара Кучынская**
Фота аўтара

# ЗОРКА

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

БЕЛАРУСКАЯ КАЗКА

## ХВЕДАР НАБІЛКІН

Жыў-быў у адной вёсцы бабыль Хведар Набілкін. Слабаваты ён быў сілаю, затое меў галаву з розумам.

Захацелася яму стаць асілкам. „Чым я не асілак? — думае сабе Хведар Набілкін. — І чаму толькі дужыя могуць быць асілкамі?“

Справіў ён сабе палатняны шацёр, сядло, узяў касу замест мяча, сеў на сваю дохлую кабылку і паехаў у свет.

Ехаў, ехаў і даехаў да вялікага горада. Бачыць — стаіць пры дарозе слуп, а на ім розныя аб'явы вісяць. Ён гэта зараз выняў з кішэні аловак і напісаў сваю аб'яву, што ў такімта годзе, такога-та месяца, такога-та дня праехаў паўз гэты горад магутны асілак Хведар Набілкін — ззаду яго не даганяць, спераду не сустракаць, а здалёку стаць, шапку зняць і пакланіцца.

Прыбіў аб'яву да слупа, а сам далей падаўся.

Тым часам едзе неўзабаве па гэтай дарозе сапраўдны асілак Дубавік. Прачытаў аб'яву і дзівіцца: што за новы асілак з'явіўся ў іхнім царстве? Як жа на яго хоць паглядзець: ззаду даганяць забараняецца, спераду сустракаць не дазваляецца... Прыйдзецца хіба хоць здалёку пакланіцца яму!

Дубавік тры вярсты кругу даў, наперад заехаў, шапку зняў і крычыць:

— Добры дзень, магутны асілак Хведар Набілкін! Хачу тваім малодшым таварышам стаць. Дзе загадаеш мне ехаць з табою — ззаду ці спераду?

— Ззаду едзь! — адказаў

(Працяг на стар. 10)

Анатоль Астрэйка




Над ракою над шырокай,
Над люстранаю ракой,
Над лазою невысокай
Ходзіць ветрык-неспакой.

Ціха шэпчуцца чароты
І калышацца аір.
Нават хвалі без ахвоты
Абмываюць з гэка жвір.

Выпаўз з лесу месяц поўны
І між белых хмар ідзе,
След кідаючы чароўны
На шурпатай на вадзе.

Рэчкі дробныя струменні
Чыстым срэбрам ззяюць скрозь,
Толькі хвоя са здзіўленнем
Назірае хваль усплёск.

Над ракою над шырокай
Ціха слелецца туман,
А за рэчкай недалёка
Песню абарваў баян.



ВАЎЧАНЕ.



САВА.



## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

## ПАЦЕШКІ

### САРОКА-ВАРОНА

Сарока-варона
На прыпечку сядзела,
Дзеткам кашку варыла,
Па лыжачцы дзяліла:
Гэтаму дала,
Гэтаму дала,
Гэтаму дала,
Гэтаму дала.
А гэтаму не дала.
Гэты пальчык —
Вялікі гультайчык:
Круп не драў,
Цеста не мясіў,
Вады не насіў.
Лыжка на паліцы,
Кашка ў камяніцы.
Шуг!
Шуг!
Шуг!
Паляцелі —
На галоўку селі.

### КУКАРЭКУ, ПЕВУНОК

Кукарэку, певунок,
Залаценькі чубок,

Пад паветачку пайшоў,
Курку-рабку там знайшоў.

Пачаў курку пытаць,
Ці умее чытаць.

— Не чытаю, не пішу,
Толькі яйкі нясу.
Штодзень дзецям нашу
Аж па цэламу кашу.

### СТУКУ-СТУКУ ПА ТАКУ

Стуку-стуку па таку.
Едзе баба на быку,
Пытаецца ў Васіля:
— Ці далёка да сяла?

Васіль кажа: — Тры мілі.
Васіліха: — Чатыры.
Васіліха Васіля
Чапялою заняла.

Пайшоў Васіль плачучы,
Васіліха — скачучы.

### КАЗА РАГАТАЯ

Ідзе каза рагатая,
Ідзе каза ідзе,
Барадой трасе,
[illegible]
Малачка хто не п'е —
Таго — бу! Забаду,
На рогі пасаджу.

### ІШЛА КАЗА

Ішла каза
Рагатая, бадатая:
— Каго пападу,
Таго забаду!
Алёнка папала,
Алёнку забадала:
Будык-будык-будык!

### ІШОЎ БАЙ ПА СЦЯНЕ

Ішоў Бай па сцяне,
Нёс торбу на спіне.
Што ў торбе, то мне,
Што ў карыце, то Мікіце.

## Вершы Віктара Шведа

### МІШКА ЗАСНУЎ НАД КНІЖКАЙ

Прачытаў нядаўна кніжку
Аб даследваннях сусвету,
Потым фільм пабачыў Мішка
На падставе кніжкі гэтай.

— Так дакладна, мая мама,
Кніжка экранізавана,
Што я ў месцы гэтым самым
Зноў заснуў неспадзявана.

### ВУШЫ — ГЭТА ТВАР ЦІ ШЫЯ?

Матуля свайго сына сварыць:
— Дзе ж так запэцкаўся,
Валерык?
Калі не вымыеш ты твару,
Зусім не сядзеш да вячэры.

Таксама бруднымі рукамі
Нервова тварык хлопец мые.
Раптам пытаецца ён мамы:
— А вушы — гэта твар ці шыя?

### ХІМІЧНЫЯ ДОСЛЕДЫ

Дзеці доследы праводзяць
На хіміі ўроку.
Кантралюе дзетак штодзень
Настаўніка вока.

— Тлушч у чым жа
распускаюць,
Ці вы, дзеці, чулі?
— Хіба, — адказала Рая, —
У нейкай каструлі.

### СЛАБЫ ЯДОК

Такі слабы ядок заўжды
З надта капрызнае Ганулі,
Што пасля кожнае яды
Грош нейкі ёй дае бабуля.

Вось на вячэру стары дзед
Унучку цягне ўжо насілу.
А ўнучка кажа: — За абед
Бабуля мне не заплаціла.

### АСТАЎСЯ КАЎНЕР

Спыталі Якуба:
— Чаму надзьмуў губы?
— Мае вы браточкі —
Прапаліў сарочку.

— Зашый яе толкам.
— Не маю іголкі.
— Які дзіркі размер?
— Дык астаўся каўнер.

### НЕ ТАКАЯ Я ДУРНАЯ

З горыччу малая Рая
На падворку плача:
— Не такая я дурная,
Як мяне ўсе бачаць.

А на гэтае Агата
Кажа: — Небарака,
Каб разумная была ты,
Перастала б плакаць.

### ВУЧЫЦЬ ТРЭБА АД МАЛОГА

Маленькага Саўку
Патрэбна вучыць —
Упоперак лаўкі
Пакуль ён ляжыць.

Калі ж уздоўж лаўкі
Сынок ужо лёг —
Вучыць тады Саўку
Запозна, дальбог.

(Працяг са стар. 9)

Хведар Набілкін.

Вярнуўся асілак назад і паехаў за ім назіркам.

Прыехалі на шырокі зялёны луг. Хведар Набілкін пусціў сваю кабылку пасвіцца, а сам разапнуў шацёр і лёг спаць.

І Дубавік свой шацёр разапнуў воддаля.

Назаўтра ўстаў Дубавік, пачаў меч вастрыць на вялікім бруску. А Хведар Набілкін, убачыўшы гэта, давай сваю касу вастрыць на камені. Меч вострыцца ціха: шах-шах, а каса — дзын-дзын аб камень!

Дубавік думае з зайздрасцю: „Ну і меч жа ў гэтага асілка! Звініць — не тое, што мой!“

Пастаялі яны на лузе два дні, на трэці Дубавік і кажа Хведару Набілкіну:

— Жыве тут недалёка цмок трохгаловы. Выклікае ён да сябе каго-небудзь з асілкаў на бой. Ці сам паедзеш, ці мяне пашлеш?

— Ат, — плюнуў Хведар Набілкін, — буду я аб такую драбязу рукі пэцкаць! Едзь ты!

Ну, асілак сабраўся і паехаў. А Хведар Набілкін лёг спаць.

Прыязджае Дубавік да цмока.

— Хто ты? — пытаецца цмок. — Ці не сам Хведар Набілкін? Чуў я пра цябе, — кажуць, нават аб'ява вісіць, што новы магутны асілак у гэтым царстве завёўся.

Бачыць Дубавік: цмок дужа баіцца новага асілка Хведара Набілкіна. Ён і адказвае яму:

— Але, сам Хведар Набілкін...

— Ну, што ж, Хведар Набілкін, будзем біцца ці мірыцца?




— Не, нячыстая сіла, не дзеля таго ехаў сюды сам Хведар Набілкін, каб мірыцца, а дзеля таго, каб біцца!

Выхапіў асілак Дубавік свой востры меч і адсек цмоку ўсе тры галавы. Дзве галавы ў дрыгву затаптаў, а трэцюю на меч усадзіў і вязе напаказ свайму старэйшаму таварышу Хведару Набілкіну. Прыехаў і пытаецца ў яго:

— Дзе загадаеш цмокаву галаву падзець?

— Кінь у куст! — махнуў рукою Хведар Набілкін.

Тым часам каля таго горада праязджаў асілак Гаравік. Убачыў аб'яву і здзівіўся: эге, вось дзе з кім цікава было б сустрэцца! Паехаў ён па слядах і прыехаў на шырокі зялёны луг. Здалёк пакланіўся Хведару Набілкіну і кажа:

— Ці не прымеш мяне, магутны асілак Хведар Набілкін, за таварыша?

— Добра. Стаў свой шацёр.

Паставіў свой шацёр і Гаравік. Назаўтра Гаравік і кажа Набілкіну:

— Аб'явіўся ў нашым краі паганы цмок з шасцю галовамі. Дык ці сам паедзеш біцца з ім, ці мяне пашлеш?

— Ат, — плюнуў Хведар Набілкін, — буду я аб такую драбязу рукі пэцкаць! Едзь ты!

Паехаў Гаравік, адсек усе шэсць галоў цмоку і адну напаказ прывёз.

— Дзе загадаеш цмокаву галаву падзець? — пытаецца ў Хведара Набілкіна.

— Кінь у кусты дрэнь гэтую!

Шырока пайшла слава пра асілка Хведара Набілкіна. Дайшла чутка пра яго і да дзевяцігаловага цмока. Выклікае ён Хведара Набілкіна на бой. Хацеў Хведар Набілкін і на гэты раз каго са сваіх малодшых таварышаў паслаць, ды тыя адмовіліся.

— Мы ўжо, — кажуць, — ездзілі, цяпер твая чарга, ды і цмок па тваёй сіле трапіўся: нам з ім не справіцца!

Ну, нічога не зробіш: трэба ехаць. Ці ж да твару магутнаму асілку гонар свой траціць?

Заканчэнне ў наступным нумары



## Пішуць школьнікі

### ДОБРЫ ДЗЕНЬ, ДАРАГАЯ „НІЎКА“!

Мяне завуць Ярэк. Мне 13 гадоў. У мяне ёсць добрыя сябры. Мы разам утварылі „Вясёлы клуб“. Мы вельмі любім чытаць „Ніву“ і „Вясёлы куточак“. Нас разам пяцёра. Мае сябры зрабілі мяне сваім шэфам. На адным нашым зборы я запрапанаваў, каб пачаць перапісвацца з савецкімі піянерамі. Мы просім цябе, „Зорка“: надрукуй наш адрас. Можа да нас нейкае звяно напіша. Вельмі будзем удзячны.

„Вясёлы клуб“.
Польшча,
Беластоцкае ваяводства,
17-220 Нараўка,
вул. 22 Ліпеня, 49.
Ярэк Апольскі.




— * —

БССР, 211994, Віцебская вобл., Браслаўскі раён, в. Казяны, вул. Кастрычніцкая, 1, Бурая Галя. 6 клас.

— * —

БССР, 220047, г. Мінск, вул. Несцерава, 62, кв. 200. Корзан Лена. 5 клас.

— * —

БССР, 222320, Мінская вобл., Маладзечанскі раён, с. Краснае, зав. Карбышэва 3, кв. 21. Багдановіч Ліда. 5 клас.

— * —

БССР, 220047, г. Мінск, вул. Несцерава, 84, кв. 199. Крук Юля. 5 клас.

— * —

МССР, 279200, г. Бельцы, ул. Жданова 7/70. Харконица Анжела. 5 клас.

Ірына Салавей




Крыся, Марыся, Кася, Анэта, Дзіяна і Зося былі найлепшымі сяброўкамі ў класе. Гэта была непадзельная шасцёрка.

Аднойчы Дзіяна запрасіла сваіх сяброўак на імяніны. Прыйшлі ўсе з кветкамі і падарункамі.

Селі за стол. Частаваліся тортам, цукеркамі, аранжадай. Пасля наладзілі танцы. Танцавалі аж да стомы.

— Давайце будзем па чарзе спяваць, — запрапанавала Крыся.

— Давайце, — згадзіліся дзяўчаты.

Першай спявала Крыся. Потым Марыся, Кася, Анэта і Зося.

— Як вы прыгожа ўсе спяваеце, — сказала Дзіяна.

Дзяўчаткі пачалі гутарыць аб сваіх сябрах і сяброўках з класа. Усіх абгаварылі.

— Позна ўжо, — раптам сказала Крыся. — Час дадому. Трэба яшчэ паўтарыць гісторыю, бо заўтра кантрольная.

— Пасядзіце яшчэ, — прасіла Дзіяна. — Яшчэ толькі восьмая гадзіна, а гісторыя не такая ўжо і цяжкая.

— Прабач, Дзіяна, але я ўжо пайду.

Дзяўчынка развіталася з сяброўкамі і выйшла.

Як толькі дзверы за ёю зачыніліся, Анэта насмешліва сказала:

— Крыська заўсёды хоча быць першаю! Першая палезла за стол, першая пачала есці торт, першая пайшла танцаваць, першая запрапанавала паспяваць, а цяпер першая пайшла дадому. Яна думае, што прыгожа спявае і танцуе. А самі вы чулі, як яна пішчыць, бы свіння ў плоце, а замест танцаваць — дрыгае, як кантужаная. Смешная яна!

Усе засмяяліся.

Пасядзеўшы некалькі мінут, дадому пайшла Зося.

— Вось якая модніца! — пагардліва сказала Марыся. — Яна думае, што вельмі прыгожа апранаецца ў замежныя шматкі. А выглядае яна ў іх, як абскубаная гуска.

Пасля выйшла Марыся.

— Гэта — знаток моды, — засмяялася Кася, — не мае модных сукенак і ходзіць абы ў чым.

У доме Дзіяны яшчэ доўга сядзелі Кася і Анэта. І ні адна з іх не адважылася выйсці першай.

Чаму?






На малюнку бачыш восем фокуснікаў і восем іх дакладных ценяў. Ёсць тут і дзевяты фокуснік і яшчэ адзін цень, але не яго. Знайдзі гэтага фокусніка і цень, які не мае адпаведніка.



Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1, „Зорка“.

# НЕ ТОЕ, ШТО РАНЕЙ

(гумарэска)

Каб я навыцяжку стаў перад майстрам ці другім якім начальнікам? Цяпер не тое, што раней. Хутчэй ён будзе стаяць перад мной... Начальства многа, рабочых мала, а я ўсё ж спецыяліст. Слесар пятага разраду!... Пакрыўдзяць мяне тут, заўтра пайду туды — там даўно мяне чакаюць, а там не спадабаецца — пайду ўнь туды...

Прыходжу раніцай на работу... Рабочае месца з вечара не прыбрана, запасу дэталяў няма, ды і інструмент не гатовы. Ёсць тут майстар, ёсць гаспадар ці няма?

— А ну ідзі сюды! — паманіў я майстра пальцам. Той падбег, запыхаўшыся.

— Што гэта? — паказваю на пустую тару. — Чаму не прыйшоў раней, не падрыхтаваў усё неабходнае мне для высокапрадукцыйнай працы?

Тлумачэнні майстра я слухаць не стаў. Ведаю, што ён можа мне сказаць у апраўданне: адзін, не разарвуся, у наступны раз такога не паўторыцца... Расстроены майстар пабег да начальніка цэха — дасць, відаць, таму прачуханца! А праз некаторы час начальнік цэха пашыбаваў у заводаўпраўленне. Відаць, прама да дырэктара... Цяпер не тое, што раней!

... Але галоўнае пачалося ўвечары, калі я вярнуўся з работы. Хутка прыйшла і жонка. Маўчыць, чмыхае, грыміць на кухні посудам... Калі я спытаў, дзе грошы, каб ісці ў магазін па хлеб, яна і ўзарвалася:

— Лайдак, недарэка!... Другія на заробкі едуць, машыны, дублёнкі жонкам купляюць, а гэты капейкі на хлеб вытрасае...

Тут я адразу здагадаўся, што па дарозе дамоў жонка заходзіла да маці, гэта значыць — да цешчы. Цесць у мяне — дырэктар таго самага завода, дзе я працую, а я з прынцыпу не хачу ісці ні на якую пасаду. Цяпер не тое, што раней... Дык, відаць, цешча пазваніла цесцю, і той быў дужа не ў гуморы... Дзіўна, чалавек займае такую пасаду, а яму яшчэ нехта настрой можа сапсаваць...

Васіль Ферэнц

# НІЎКА



# АФАРЫЗМЫ

*

Пропускам у еўрапейскую культуру з'яўляецца метрыка хрышчэння.

*

Дэмагогія — святы саюз народаў.

*

Падпісвала лісты-ананімкі: „Прыгожая Душа".

*

Найдалей зайшоў у невуцтве.

*

Здзіўляючае, як у такой малой галоўцы можа змяшчацца столькі няведання.

*

Сон Метэрніха: бачыць сябе ў труне ў чырвонай шапцы якабінаў. Сон Ротшыльда: сніцца яму, што падарыў бедным сто тысяч франкаў і расхварэўся з гэтай прычыны.

*

Маладое дзяўчо сказала: „Гэты чалавек напэўна вельмі багаты, таму што ён жахліва брыдкі." Такім чынам думае і публіка: „Чалавек гэта напэўна вучоны, таму што ён вельмі нудны."

*

Мадам дэ Сталь — швейцарка. У швейцарцаў пачуцці так узнёслыя, як іх горы, але іх грамадскія погляды так вузкія, як іх даліны.

*

Лютэр ускалыхнуў немцамі — але Фрэнсіс Дрэйк зноў іх супакоіў: даў нам бульбу.

Генрых Гейнэ

# КРЫЖАВАНКА З ЗАКЛІКАМ

**Упоперак:** 1) „Ніва", 4) імя Самуйлёнка, беларускага пісьменніка, 8) у ім ката не купляй, 11) насып на месцы пахавання, 12) часта смяецца, 13) горад як дзяўчына, 14) „Ніва", але не газета (у БССР), 15) віск, скавытанне, 18) заступіла касу, 20) ля грудзей маці, 22) іграе ў тэатры, 23) да айчыны або дзяўчыны, 24) з яго малака не надоіш, 25) майстар ад вупражы, 27) маці мужа, 29) чай, 34) лёс, 35) гімнаст у цырку, 36) у ім цяжка знайсці іголку, 39) прысмакі, 40) заляцаецца да паненкі, 41) месца зняволення, 42) пасудзіна з клёпак, 43) драпежная рыба.

**Уніз:** 1) вялікі горад на Сожы, 2) трэба яе адгадаць, 3) сэнс, 5) паміж аглоблямі, 6) публіцыстычны твор, напрыклад, у „Ніве", 7) імя беларускай паэтэсы з Гародні, 8) бліскавіца, 9) іграюць ёю хакеісты, 10) „Аўрора", але не з „Нівы", 16) суседка беларуса, 17) праўдзівак, белы грыб, 18) класік беларускай літаратуры, 19) найбольш дзейныя члены арганізацыі, напр. БГКТ, 20) плыве праз Гродна, 21) расце на дрэве, 25) цвіценне або развіццё, 26) можаператароджваць, падтрымоўваць або кідаць камені, але не рагоча, 28) расце на целе, 30) ёлупень, 31) не ідзе ў лад, 32) цыганскі, 33) смачны, калі зялёны з агарода, 37) сын сына, 38) пэндзаль з пакулля.

„ядань"

Разгадкай крыжаванкі з'яўляецца заклік, які створыцца, калі выпісаць літары ад 1 да 40 з клетак, панумараваных у ніжнім правым рагу. Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільны заклік, будуць разыграны дзве кніжныя ўзнагароды.

**Адказы на крыжаванку, змешчаную ў № 32.**

**Упоперак:** капуста, навука, артэрыя, трэнер, гармата, агрызак, Таймыр, кавалер, сварка, старана.

**Уніз:** андатра, куранты, качарга, пастар, турыст, актрыса, майстар, акрабат, граніт, золата.

Кніжныя ўзнагароды выйгралі: Надзя Сяўрук з Мінска і Тамара Вабішчэвіч з Ямнага.



*

— Мамачка, ах, які анекдот я чула!

— Ну, раскажы.

— Не, што ты, я яшчэ надта малая для яго.

*

— Вялікае дзякуй, што вы зайшлі да мяне ў госці.

— Так, пагода такая страшэнная, і нічога лепшага зараз не прыдумаеш.

*

— Як пражывае ваш сын?

— О, з кожным днём ён становіцца штораз больш падобны да мяне.

— Божа ж мой, а можа ў нечым вам дапамагчы?!

*

Размаўляе двое канібалаў:

— Божа мой, ты паправіўся адразу на дваццаць кілаграмаў!

— Так, тып, якога я ўчора з'еў, быў вельмі худы.

*

Пасля шлюбу маладая жонка звяртаецца да свайго пажылога абранніка: „Мой дарагі, хачу паспрабаваць напісаць сваё новае прозвішча — дай мне тваю чэкавую кніжку!"




Ацэньваючы чалавека, падумай, чаго ён быў бы варты, калі б не быў на пасадзе.